# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 8 (1252) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 24 ЛЮТАГА 1980 г. ЦАНА 1 зл.




Сёння ў горадзе Беластоку ў пяці вышэйшых школах вучыцца больш за восем тысяч студэнтаў, штогод з з іх выходзіць каля паўтары тысячы маладых спецыялістаў: лекараў, інжынераў, педагагаў, эканамістаў, акцёраў, музыкантаў, арганізатараў культурнага жыцця, працаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі і шэрагу іншых спецыяльнасцей. Наш горад стаў вядомым цэнтрам навукі, у якім здабывае вышэйшую адукацыю моладзь не толькі з усіх рэгіёнаў Польшчы, але і з іншых краін Еўропы, Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі. Тое, чаго іншыя вялікія гарады нашай краіны дабіваліся на працягу доўгіх стагоддзяў, некалі глухі, правінцыянальны Беласток здабыў пры жыцці аднаго пакалення, усяго за апошнія 30 год...

А тады?.. Калі на ліпеньскім урачыстым пасяджэнні Ваяводскай рады нарадовай у 1949 г. пасол Сейма М. Турэнец выступіў з прапановай адкрыць у Беластоку лекарскую акадэмію, можа ўсяго некалькі чалавек з прысутных паверылі ў магчымасць ажыццяўлення такога, здавалася б, фантастычнага пажадання. А як найвышэйшыя дзяржаўныя органы пастановай ад 2 лютага 1950 г. адкрылі Медыцынскую акадэмію ў Беластоку, вельмі мала было такіх людзей у тагачасным навуковым асяроддзі Польшчы, якія б не налічылі гэтае рашэнне неабдуманым, паспешлівым ці рызыкоўным. У Беластоку людзей з вышэйшай прыродазнаўчай адукацыяй няцяжка было палічыць на пальцах, а на ўсім абшары сённяшніх Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў працавала тады не больш за 60 лекараў.




На будучы беластоцкі цэнтр адукацыі медыкаў былі аддадзены руіны былога палаца Браніцкіх. Тады ў абгарэўшых мурах кішэла хмара груганоў, рэшткі колішняга французскага парка дагрызалі касцістыя козы, а на месцы былых шыкоўных клумбаў і газонаў беластоцкія балаголы прыводзілі коней у начное.

Але яна — Беластоцкая медыцынская акадэмія наперакор усім і ўсяму нараджалася. 3 лютага 1950 г. два прафесары, адзін дацэнт, некалькі дактароў і магістраў пачалі заняткі са 164 студэнтамі. І педагогі і іх выхаванкі свой час дзялілі толькі на дзве часткі: навука і будова, бо штодня кнігу і скальпель трэба было замяняць лапатай ды кельняй. І яны не толькі што вытрымалі, але сваім прыкладам запалілі сотні іншых. Праз пяць год студэнтаў было

(Працяг на стар. 4)

# ДАВЯЛОСЯ ЖЫЦЬ БАГАТА

Іван Дзем'янюк з Левак у Бельскай гміне шкадуе, што так позна заняўся спецыялізацыяй. У 1975 годзе пачаў ад 15 штук авечак. Адначасова пачаў мадэрнізаваць свае жывёлагадоўчыя будынкі. У наступным годзе набыў яшчэ 15 маладых авечак. Такім чынам заснаваў уласнае племяннное стада. Зразумела, што ў кожным напрамку жывёлагадоўлі галоўную ролю адыгрывае корм. На сваёй 13-гектаровай гаспадарцы Іван Дзем'янюк плануе так, каб мець добрыя кармы і не быць ад нікога залежным у гэтай галіне. Садзіць шмат бульбы, пастэўных буракоў, сее розныя мяшанкі і „паплёны“, збірае высокія ўраджаі сена і іншых культур. Зямлю апрацоўвае ён сваімі сельскагаспадарчымі машынамі, якія паспеў закупіць пасля двух год спецыялізацыі. Мае ён таксама ўласны трактар і ў апошні час купіў легкавую машыну.

Цяпер Іван Дзем'янюк мае сорак авечак-матак, трохі маркачоў і шмат ягнят. А калі ягняты падрастуць да 7-8 месяцаў, а маркачыкі — да 12 месяцаў, згодна з умоваю, здае іх дзяржаўнай установе абароту дамашняй жывёлай. У мінулым годзе Іван Дзем'янюк здаў каля трох тон жывой вагі авечага маладняка. Апрача таго, настрыг больш як тры з палавінаю цэнтнера воўны, за якую атрымаў амаль чатырыста тысяч злотых. Факты гэтыя гавораць аб тым, што авечкагадоўля прыносіць шмат карысці і гаспадару і дзяржаве. А калі ёсць грошы, можна жыць камфортна. І Дзем'янюкі так жывуць. У гэтым можна пераканацца, наведаўшы іх дом, які мае 110 квадратных метраў жылой плошчы і ў якім прыгожая мэбля, дываны і багатая бытавая тэхніка.

Догляд авечак у асноўным належаў да самога гаспадара — Івана Дзем'янюка і толькі часткова дапамагала яму ў гэтым жонка Марыя і падрастаючыя дзеці. Справа ў тым, што жонка працавала на дзяржаўнай пасадзе ў Бельску і праца гэта разам з даездам цягніком займала амаль увесь працоўны дзень. Зарабляла яна не мала, 5 тысяч злотых

(Працяг на стар. 5)



# ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

У пачатку бягучага года мы звярнуліся да начальнікаў морадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

— Што вы, таварыш начальнік, лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?

Сёння адказваюць:

**Мгр АЛЯКСАНДР БУРА, начальнік гміны ў Гарадку:**

— У мінулым годзе ўдалося нам панізіць арэал дзяржаўнага фонду зямлі да 2000 гектараў. У 1978 годзе было яе 3402 га. Амаль паўтары тысячы гектараў перадалі ў трывалае ўжыткаванне, г. зн. ва ўласнасць. Найбольш міхалоўскаму ПГР, затым гарадоцкаму СКР і сельскагаспадарчым прадукцыйным спулдзельням у Зубрах і Лужанах. На 472 га няўдобіц пасадзілі лес. У 1979 годзе выканалі мы план продажу зямлі індывідуальным гаспадарам. Купілі яны 112 га зямельных угоддзяў. Яшчэ два гады таму назад не было ў нас ахвотных на гэта.

Паспяхова закончана сцаленне і абмен зямельных угоддзяў у вёсках Гарадок і Сафіпаль.

Іншым значным нашым дасягненнем з'яўляецца жыллёвае будаўніцтва. У самім Гарадку наваселле спраўляла 21 сям'я. Семдзесят дамоў яшчэ ў пабудове. У тым жа годзе выдзелілі 60 будаўнічых пляцовак ля дарогі з Гарадка ў Валілы-станцыю. Рыхтуем наступныя. Ёсць ахвотныя.

**Інж. ЯН ПОЛЯК, начальнік горада і гміны ў Заблудаве:**

— Найбольшым дасягненнем у мінулым годзе ў гміне я лічу перадачу ў карыстанне новага асяродка здароўя. Ён — самы прыгожы будынак у Заблудаве. Памяшканне яго светлае і прасторнае. Тут знаходзяцца кабінеты: агульныя, педыятрычныя, стаматалагічныя, ЭКГ, фізіётэрапіі. Штодзень лекары прымаюць у іх каля ста пацыентаў з гэтага амаль 2-тысячнага пасёлка і бліжэйшых ваколіц. Заблудаўскі асяродак здароўя пабудаваны са сродкаў НФОЗ і пры актыўным удзеле мясцовага насельніцтва. Ён заслуга і доктара Мацея Заблоцкага, які яго ўзначальвае і які ўжо 27 гадоў прымае пацыентаў. Кіраўнік асяродка мабілізаваў людзей да грамадскіх пачынаў і дабіваўся дапамогі з боку ваяводскіх адміністрацыйных і рэсортных, а таксама мясцовых гарадскіх і гмінных улад.

**ЯН РАМАНЧУК, начальнік горада і гміны ў Харошчы:**

— Найважнейшым дасягненнем у мінулым годзе ў Харашчанскай гміне лічу затармажэнне спадку пагалоўя свойскай жывёлы ў індывідуальных гаспадарках. І так, быдла маем 5269 штук, у тым ліку 3337 кароў (лік кароў павялічыўся нават на 24), свіней — 7689 (больш на 54). З думкай аб развіцці авечкагадоўлі ў вёсцы Рагова на базе індывідуальнай гаспадаркі стварылася сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня „Залатое руно“.

Сяляне сабралі высокія ўраджаі бульбы — у сярэднім 220 цэнтнераў з 1 гектара зямельных угоддзяў і буракоў — 350 ц/га.

У мінулым годзе індывідуальныя гаспадары падсеялі ў сярэднім 140,2 кг НПК у чыстым рэчыве на кожны гектар зямельных угоддзяў. Гэта гмінны рэкорд. Але не толькі. Сярэдняя ваяводская 120 кг НПК на 1 га.

Маючы на ўвазе сучасныя формы гаспадарання, у мінулым годзе мы арганізавалі 25 спецыялістычных гаспадарак і маем іх роўна 100.

У заканчэнні яшчэ пра само мястэчка Харашч. Тут мы аднатавалі нябывалы поспех у спулдзельчым жыллёвым будаўніцтве. 74 сям'і пасяліліся ў новых сучасных кватэрах агульнай плошчы ў 3 700 квадратных метраў.

**Я. Целушэцкі**

# ХРОНІКА

■ На справаздачна-выбарным сходзе гуртка БГКТ у Палічнай (гміна Кляшчэлі) прысутныя звярталі ўвагу на недастатковыя сувязі гуртка з ГП БГКТ, скардзіліся на недахоп абсталявання мясцовай святліцы, у якой можна было б весці рэпетыцыі мастацкага калектыву, калі б хтосьці прыйшоў з прафесіянальнай дапамогай. 8 асоб падпісала членскія дэкларацыі БГКТ. У склад новага праўлення выбраны: Вера Хіліновіч — старшыня, Віктар Раманюк — намеснік старшыні, Марыя Герасімюк — сакратар, Вера Зінчук — скарбнік. Сход абслужыў інструктар ГП Міхась Вішанка.

■ Члены БГКТ у Сухавольцах выказалі жаданне, каб у іх вёску прыязджалі прадстаўнікі ГП БГКТ і журналісты „Нівы", а таксама харавыя калектывы з беларускім рэпертуарам. 13 чалавек уступіла ў гурток. У праўленне ўвайшлі наступныя асобы: Башко Аляксандр — старшыня, Васіль Масальскі — намеснік старшыні, Павел Зялінка — сакратар, Кастусь Шклярук — скарбнік, Павел Масальскі і Юрка Рута — члены праўлення. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбраны Уладзімір Шклярук.

■ 31 студзеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім былі абмеркаваны наступныя справы: а) гадавая справаздача аб дзейнасці БГКТ на 1979 год; б) выкананне бюджэту ў 1979 годзе і праект бюджэту на 1980 год.

■ 4 лютага камісія культуры ГП пад старшынством Янкі Зенюка падсумавала сваю дзейнасць за бягучую кадэнцыю, падкрэсліваючы дасягненні і не скрываючы недахопы ў галіне культуры БГКТ.

■ У Навакорніне (гміна Гайнаўка) нашы сябры меркавалі, якімі формамі працы заахвоціць да актыўнай дзейнасці свой гурток. На гэтую тэму гаварыў таксама і старшыня ГП Мікалай Самоцік, які абслугоўваў сход. У склад новага праўлення ўвайшлі: Ірэна Вашчэнка — старшыня, Галіна Тарэшук — сакратар, Мікалай Парфенюк — скарбнік. У рады БГКТ уступіла 7 чалавек.

■ У Рэпісках (гміна Гайнаўка) членскія дэкларацыі БГКТ падпісала 13 асоб. Прысутныя звярталі ўвагу на неабходнасць спатканняў з цікавымі людзьмі. У новае праўленне выбраны: Міхась Федарук — старшыня, Іван Плева — сакратар, Уладзімір Дубіцкі — скарбнік. На з'езд паедзе старшыня гуртка — Міхась Федарук. Сход абслужыў сакратар ГП Янка Зенюк. **(мх)**

### КАЛЯНДАР

**60 гадоў назад**
25.2.1920 нар. П. Прыходзька, беларускі савецкі паэт.

# НОВЫЯ ЎЛАДЫ ПАРП

**15 лютага ў час перапынку між пасяджэннямі VIII З'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі адбылося першае пленарнае пасяджэнне новавыбранага Цэнтральнага Камітэта ПАРП.**

Пленум адкрыў член ЦК, шахцёр з шахты „Барбара-Хожуў" **Герард Габрысь**. Прапанаваў ён Цэнтральнаму Камітэту партыі выбраць **Эдварда Герка** І сакратаром ЦК ПАРП.

**Нязвыкла горача, сардэчна прынялі сабраўшыеся кандыдатуру Эдварда Герка, выказваючы галасаваннем сваю поўную аднадумнасць.**

Далей пасяджэнне вёў Эдвард Герэк. І сакратар ЦК ПАРП падзякаваў за даручэнне яму гэтых ганаровых, адказных абавязкаў.

Затым Эдвард Герэк прадставіў кандыдатуры ў Палітычнае Бюро і Сакратарыят ЦК.

**Членамі Палітычнага Бюро былі выбраны:**

**Эдвард Герэк**
**Эдвард Бабюх**
**Тадэуш Вжашчык**
**Анджэй Вэрблян**
**Здзіслаў Грудзень**
**Станіслаў Кавальчык**
**Станіслаў Каня**
**Алойзы Каркошка**
**Уладыслаў Кручэк**
**Ежы Лукашэвіч**
**Ян Шыдляк**
**Генрык Яблонскі**
**Мечыслаў Ягельскі**
**Войцех Ярузэльскі.**

**Намеснікамі члена Палітычнага Бюро ЦК ПАРП выбраны:**

**Казімеж Барцікоўскі**
**Эміль Вайташэк**
**Здзіслаў Жандароўскі**
**Юзэф Пінькоўскі**
**Тадэуш Пыка**

**У склад Сакратарыята ЦК ПАРП былі выбраны:**

**Эдвард Герэк**
— І сакратар ЦК;
Сакратары ЦК:
**Ежы Вашчук**
**Анджэй Вэрблян**
**Анджэй Жабінскі**
**Здзіслаў Жандароўскі**
**Станіслаў Каня**
**Ежы Лукашэвіч**
**Юзэф Пінькоўскі**

Членамі Сакратарыята ЦК былі выбраны:

**Збігнеў Зялінскі**
**Здзіслаў Куроўскі**

Цэнтральны Камітэт ПАРП выбраў таксама 83 членаў **Цэнтральнай Камісіі партыйнага кантроля**, рэкамендуючы старшыню ЦКПК — **Уладыслава Кручка.**

Аднačасова Пленум выказаў падзяку ранейшаму старшыні ЦКПК — **Стэфану Місяшку.**

(ПАП)

# МОЛАДЗЬ У НАСТУПЛЕННІ

Гмінная арганізацыя ЗСМП у Міхалове налічвае 530 чалавек. Да актыўных належаць гурткі ў Саколлі (старшынствуе яму Андрэй Каспяровіч) і Навасадах (старшыня Ніна Павільч), пры вопраткавым прадпрыемстве „Бельпо" (старшыня Марыя Базылюк), пры сельскагаспадарчым камбінаце (старшыня Эдвард Альшэўскі) і пры гмінным асяродку культуры (старшыня Рышард Дамброўскі) — усе ў Міхалове. У мінулым годзе бронзавымі значкамі імя Янкі Красіцкага былі ўзнагароджаны Данута Шольц з Шымкаў, Уладзімір Азябла з Пянькоў і Раман Каспяровіч з Саколя, значкамі „Перадавік маладзёжнага чыну ЗСМП" былі ўзнагароджаны: Андрэй Каспяровіч і Ян Ражко — абодва з Саколля, Фелікс Казбярук і Веслаў Гаца — абодва яны з'яўляюцца трактарыстамі міхалоўскага сельскагаспадарчага камбіната, Андрэй Хайтэр і Чэслаў Арцішэўскі — абодва яны з Міхалова, Уладзімір Азябла і Здзіслаў Карповіч — абодва з Пянькоў і Яўгенія Лешчук з Шымкаў. Апрача таго, найлепшыя гурткі атрымалі ва ўзнагароду дыпломы.

Зараз у гуртках ЗСМП адбываюцца алімпіяды ведаў на тэму „Польская аб'яднаная рабочая партыя — яе традыцыі і сучаснасць". Нядаўна арганізаваўся яшчэ адзін гурток у Кабылянцы каля Міхалова. Налічвае ён 16 чалавек.

Старшынёю выбран Яўген Тарасевіч. На краёвы з'езд ЗСМП з Міхалоўскай гміны паедуць дэлегаты: Варвара Пахольская з Саколля і Уладзімір Азябла з Пянькоў.

У Шымках моладзь намерана перавесці клуб прэсы і кніжкі са старога будынка ў пажарную рамізу.

У Міхалове члены ЗСМП намагаюцца адкрыць кавярню ў ГСаўскай святліцы.

У Тапалянах дзяўчаты і юнакі задумалі нанава адкрыць клуб селяніна (ён існаваў тут тры гады таму назад).

Моладзь з Саколля актыўна працуе ў клубе прэсы і кніжкі (ён адзін з лепшых у Беластоцкім ваяводстве). Тут разгарнуў сваю цікавую дзейнасць тэатр пры каве пад кіраўніцтвам Варвары Пахольскай. Самадзейнікі рыхтуюць і ставяць на сцэне сучасны рэпертуар. Напрыклад, ставілі яны „Канапельку" Эдварда Рэдлінскага і іншыя п'есы.

Тутэйшая моладзь сама зрабіла электрычнае асвятленне сцэны, абажуры і кінкеты ў зале клуба, а таксама навейшую дыскатэку. У плане ў яе пабудова ладнага ганачка ля ўваходу ў клуб. Дзяўчаты і хлопцы арганізавалі клуб любіцеляў тэатра. Яны ўмела выкарыстоўваюць тэлевізійныя тэатральныя перадачы. Пасля выбраных спектакляў або кінафільмаў на высокім мастацкім узроўні яна арганізуе цікавыя дыскусійныя вечарыны.

Моладзь у грамадскім пачыне будуе мясцовыя дарогі і садзіць лес.

У 1979 годзе за добрую працу гурток ЗСМП у Саколлі атрымаў сцяжок Галоўнага праўлення ЗСМП і дыплом Гміннага праўлення ЗСМП. Апрача таго, дыпломы атрымалі актывісты Багдан Каранкевіч, Яўген Паплаўскі і Антон Сахарэвіч.

Члены ЗСМП у Навасадах у мінулым годзе абсадзілі саджанцамі дрэўцаў дарогу. У Бяндзюзе яны будавалі дарогу. Таксама і ў Баршчэве. У Шымках рамантавалі клуб „Рух" і мясцовую дарогу. У Жэдні падрыхтавалі спартыўную пляцоўку.

**Я. Целушэцкі**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Бачыць сэрцам ● Дырэктар ПГР у Крынках марыць пра аркестр ● Кавалер Ордэна Адраджэння — Аляксандр Марчук ● Літаратурная старонка ● Славілі „камуніста" ● Толькі на адно пытанне адказваюць начальнікі з Дубіч Царкоўных і Супрасля ● Дзядзька Квас апладзіруе Тургеневу ● Весткі з Дубровы, Бельска, Дубіч Асочных, Нурца, Белак, Гайнаўкі ● Беларуская песня „Балада аб маці"**


## Niwa

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 287 Nakład 7.900 I-2


## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 24 II** — 6.40 TTR i RTSŚ — Historia, sem. II. 7.10 Fizyka, sem. II. 7.40 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek oraz „Gazda z Diabelnej" odc. III. 10.20 Antena. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Koncert symfoniczny WOSPRiTP. 13.30 Tylko w niedzielę. 18.15 Decydujący front — „Wyzwolenie Białorusi" — film dok. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Tylko w niedzielę c.d.

**Poniedziałek 25 II** — 12.45 TTR i RTSS — Język polski, sem. IV. 13.25 Historia, sem. IV. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Nauczanie początkowe, kl. III. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 17.10 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.40 Dziewczyna jak ty — czech. film. fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV na świecie — Wolter — „Kandyd". 22.05 Wiadomości olimpijskie. 22.15 Świat i Polska. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 26 II** — 6.00 TTR i RTSS — Język polski, sem. IV. 6.30 Historia, sem. IV. 11.05 Język polski, kl. II lic. 12.00 Historia, kl. VIII. 12.55 Język polski, kl. IV lic. 13.35 TTR i RTSS Matematyka, sem. II. 14.05 Chemia, sem. II. 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Szkolne Studio Tel. 17.30 Sonda. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Królik Bugs przedstawia — anim. film ameryk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Cztery dni w Neapolu — włoski film fab. 22.25 Camerata. 22.50 Dziennik.

**Środa 27 II** — 6.00 TTR i RTSS — Matematyka, sem. II. 6.30 Chemia, sem. II. 11.05 Fizyka, kl. VIII. 12.00 Chemia, kl. VII. 12.45 TTR i RTSS — Matematyka, sem. IV. 13.25 Geografia, sem. IV. 14.30 W drodze do nowego. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Psychologia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Los. małego i express lotka. 17.05 Dom i my. 17.45 10 minut — teleturniej. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Ostatnia wiosna „Bezkrwawego łowcy" — film o W. Puchalskim. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kieszonkowiec — film fab. franc. 21.55 X Y Z — cz. I. 22.25 Konfrontacje — Zatoka Perska. 22.45 X Y Z — cz. II. 23.15 — Dziennik.

**Czwartek 28 II** — 6.00 TTR i RTSS — Matematyka, sem. IV. 6.30 Geografia, sem. IV. 11.05 Język polski, kl. VIII. 12.00 Język polski, kl. II lic. 12.55 Język polski — kl. III i IV lic. 13.25 TTR — Uprawa roślin, sem. II. 15.20 Program dnia. 15.25 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz film „Gdzie jest Gordon Hunter". 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Brygady Tygrysa — odc. pt. „Anonim". 21.30 Pegaz. 23.00 Dziennik.

**Piątek 29 II** — 6.00 TTR — Hodowla zwierząt, sem. II. 6.30 Uprawa roślin, sem. II. 11.05 Praca — technika, kl. II. 12.00 Program dla najmłodszych, kl. III. 12.55 Geografia, kl. VIII. 13.25 TTR — Hodowla zwierząt, sem. IV. 14.00 Uprawa roślin, sem. IV. 15.10 Red. szkolna zapowiada. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Psychologia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Magazyn motoryzacyjny. 17.25 Dom i my. 17.40 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.10 Czterdziestolatek, film TP. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Prawo do marzeń — radz. film fab. 22.50 Dziennik.

**Sobota 1 III** — 6.00 TTR — Hodowla zwierząt, sem. IV. 6.30 TTR — Uprawa roślin, sem. IV. 12.45 Język polski, sem. II. 13.25 Fizyka, sem. II. 14.15 Program dnia. 14.20 Radzimy rolnikom. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.00 Orbita. 17.30 XI Halowe Mistrzostwa Europy w LA. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Milionerka z hotelu Ritz — franc. film fab. 23.00 Dziennik. 23.15 W trójkącie — ang. film fab. (js)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 22 II** — 6.50 Na zimowej Olimpiadzie. 7.10 Klub podróżników. 8.15 Na zimowej Olimpiadzie. 14.10 Koncert. 14.55 Trans. z Pałacu Zjazdów. 20.00 Na zimowej Olimpiadzie.

**Sobota 23 II** — 7.00 Na zimowej Olimpiadzie. 8.50 Na zimowej Olimpiadzie. Hokej. 13.50 Koncert życzeń. 15.50 Na zimowej Olimpiadzie. Hokej. 18.00 Wieczór w Ostankino. 19.30 Na zimowej Olimpiadzie. 19.45 c.d. Wieczoru.

**Niedziela 24 II** — 6.35 Na zimowej Olimpiadzie. 9.40 Spotkanie z zespołem „Polesie". 13.00 Na zimowej Olimpiadzie. 13.50 Film anim. 14.00 Klub podróż. 16.45 Przegląd piłkarski. 17.20 Film fab. 19.35 Na zimowej Olimpiadzie.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Miałam 19 lat — NRD 26—27 II. Jenny i Tobby wśród dzikich zwierząt — USA 28—29 II. Na tropie Wilbyego — ang. 1—2 III.
**Bielsk Podl.** Wściekły — pol. 25—26 II. Imperium namiętności — jap. 27—29 II.
**Czeremcha** Światło — fr. 26—27 II. Ślub bez obrączki — czes. 1—2 III.
**Czyże** Autostopowicz — czes. Do krwi ostatniej — pol. 27 II—2 III.
**Gródek** Wierna żona — fr. 1—2 III.
**Hajnówka** Gang Olsena na szlaku — duń. 25—26 II. Dzień weselny — USA 27—29 II. Wrześniowa eskapada — rum. 1—2 III.
**Michałowo** Ostatni z Fleksnesów — norwes. 26—27 II. Rocky — USA 27—29 II. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 1—2 III.
**Mielnik** Czarne i białe w kolorze — pol. 27 II. Na miłość nigdy nie jest za późno — węg. 1—2 III.
**Milejczyce** Klincz — pol. Cygańska miłość — bułg. 27 II—2 III.
**Narew** Jabberwocky — ang. Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. 27 II—2 III.
**Narewka** Rozdroża — rum. Test Pilota Pirxa — pol. 27 II—2 III.
**Nurzec** Cyrk w cyrku — czes. 26—27 II. Hotel klasy lux — pol. 28—29 II. Młody Frankenstein — USA 1—2 III.
**Orla** Gdziekolwiek jesteś panie prezydencie — pol. Jenny i Tobby wśród dzikich zwierząt — USA 27 II—2 III.
**Rajsk** Ciepło — bułg. Serpice — wł. 27 II—2 III.




### „БУГ У АГНІ“

Гэты цыкл карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод чытачоў „Нівы“. Людзі чакаюць з нецярплівасцю кожнага наступнага нумара газеты, каб даведацца пра далейшыя лёсы герояў. Як мужна баранілі яны граніцу над Бугам ад нямецкіх захопнікаў! Байцам дапамагалі жыхары навакольных вёсак. Аб усім гэтым здольны журналіст „Нівы“ Віктар Рудчык цікава піша. Каб усё гэта не загінула ў людской памяці! Віктар Рудчык складае дакументальную эпапею аб усім тым, што было.

Мы, чытачы, павінны дапамагчы аўтару ў яго пошуках. Аб такой дапамозе сам Віктар Рудчык прасіў на з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“. А дапамагчы можам. Старэйшыя людзі помняць факты і ведаюць людзей, якія ў першыя дні вайны, адыходзячы на ўсход, затрымліваліся ў нашых вёсках і хатах. Іх звалі „васточнікамі“. Яны з дапамогай мясцовых камуністаў і дзеячоў падполля арганізавалі таксама ў лясных масівах Беласточчыны бясстрашныя партызанскія атрады. Сярод нас ёсць і такія людзі, што самі служылі ў Савецкай Арміі над Бугам і былі жывымі сведкамі тых падзей. Аб усім гэтым пішыце, людзі, у „Ніву“. Абавязкова пішыце, на якой толькі мове хочаце. Гэта будзе бясцэнны падарунак нашаму следапыту і рэдакцыі. І будзе гэта таксама вялікі наш удзел у стварэнні нашай гісторыі.

Чытачы дамагаюцца таксама, каб „Буг у агні“ Віктара Рудчыка выйшаў кніжным выданнем. Гэта будзе першая кніга аб змаганні нашага народа разам з савецкімі воінамі супраць фашысцкай тыраніі. Тым больш, што будзе гэта кніжка-дакумент. Мы заслужылі на такую кнігу.

**М. Панфілюк**

*

Каб часцей паяўляліся на старонках „Нівы“ такія артыкулы, як „Буг у агні“ Віктара Рудчыка. Гэты каштоўны цыкл чытаецца ў першую чаргу. Яго ахвотна чытаюць старэйшыя, маладыя і школьная моладзь. Гэта гістарычныя артыкулы. Яны вучаць нас не забываць пра жахі апошняй вайны і здзекі фашыстаў над нашымі людзьмі. Яны вучаць нас бараніць мір.

**М. Лук'янюк**

### ПАТРЭБНАЯ ПРАЦА

Даўно стаў я пастаянным чытачом тыднёвіка „Ніва“, які стварае гісторыю Беласточчыны. Тое, што напісана сёння на старонках „Нівы“, у будучыні прачытаюць іншыя новыя пакаленні і даведаюцца аб мінулым нашай зямлі.

Апублікаваныя ў тыднёвіку ад 20 студзеня 1980 года матэрыялы „Карэспандэнт года“ і „Сябры-пісьманосцы ў нас“ прымусілі і мяне напісаць некалькі слоў. У шырокай групе карэспандэнтаў „Нівы“ ёсць працаўнікі сувязі. Цэніць тое, што не толькі сваёй прафесіянальнай, абавязковай працай, але і грамадскай, як карэспандэнты, уносяць яны ўклад у развіццё Беласточчыны. Найбольш актыўнымі на старонках „Нівы“ з'яўляюцца Мікалай Панфілюк і Эдвард Вайсковіч, якім пасылаю пажаданні яшчэ лепшых дасягненняў у новым годзе.

Пісьманосцы на працягу ўсяго мінулага 35-годдзя Народнай Польшчы вялі прапагандысцкую працу. Хадзілі ў кожную хату са сваім словам і друкаваным — у газетах. Гэтую працу вядуць яны і сёння. Праца работнікаў сувязі — не толькі распаўсюджванне прэсы. Гэта вельмі шырокая дзейнасць. Сувязь — гэта акно на свет, без якога ніводная галіна народнай гаспадаркі не мела б добрых вынікаў.

Думаю, што пра некаторыя праблемы сувязі і людзей, працуючых у ёй, можна гаварыць і пісаць многа. Можна гаварыць аб іх цяжкай і самаахвярнай працы. Аб гэтым і гаварылася на спатканні ў рэдакцыі „Нівы“. Гэта ж напісана і ў матэрыялах, апублікаваных у тыднёвіку. І за гэта вялікая мая падзяка.

**В. Брацкі,**
Беласток

**Ад рэдакцыі.** І так паявіўся ў нас на старонках новы карэспандэнт. Піша цікава і добра па-беларуску. Вітаем у нашай грамадзе!

### ГОЛАС НАТУРАЛІСТА ДА АНІ З ЛАЗІЦ

З вялікім зацікаўленнем я прачытаў твой артыкул, Аня: „Памажыце прыя-

(Працяг на стар. 7)



## Сямяцічы прыгажэюць

Сямяцічы налічваюць 8,5 тыс. жыхароў. У апошнія гады горад намнога змяніўся. Поўнасцю пабудаваны жылёвы пасёлак „Цэнтр“. На пасёлку „Маладых“ пабудавана пяць васемнаццацісямейных дамоў. Зараз будуюць шэсць блокаў на пасёлку „Сады“ і два на пасёлку „Тарасы“. Усіх блокаў жыллёвая спулдзельня мае 26. У бягучым годзе колькасць іх павялічыцца на дзевяць. У 1990 годзе сямяцічане будуць ужо жыць у 1150 спулдзельчых кватэрах. У бліжэйшай перспектыве, да 1982 года, будуць разбудоўвацца пасёлкі „Сады“ і „Тарасы“, а пасля будзе ўзводзіцца вялікі пасёлак „Усход“ на 10 тысяч жыхароў. Вялікаблокавую забудову дапоўніць пасёлак аднасямейных дамоў, дзе ўжо здадзена ў эксплуатацыю 140 кватэр, а ўсіх іх будзе 400.

У Сямяцічах у апошнія гады перабудавана гандлёвая сетка. Адрамантавана 20 крамаў. Гандлёва-паслуговы павільён будзе пабудаваны на пасёлку „Тарасы“. Апрача таго былі адкрыты таварны дом з дзевяццю рознымі аддзяленнямі, рэстаран „Оленька“ і бар „Экспрэс“. Гараджане адрамантавалі шматлікія важнейшыя вуліцы, добраўпарадкавалі парк. Пасадзілі 15 тысяч ружаў.

**(яц)**




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА LXI

Выразна акрэсленую групу алегарычных твораў Коласа складаюць наступныя апавяданні: „Ноч“, „Калі папараць цвіце“, „Супраць вады“, „Хвароба“, „Тры браты“. Героямі гэтых твораў з'яўляюцца сімвалічныя чалавечыя постаці, прадстаўнікі фауны, фантастычныя з'явы. Залежнасць гэтай катэгорыі алегарычных твораў Коласа ад народных казак з'яўляецца пераканаўчым фактам. Залежнасць гэта праяўляецца ў сімвалічнай трактоўцы чалавечых постацей, у спалучэнні людзей з фантастычнымі з'явамі, у адсутнасці дыгрэсій, у лаканізме апісанняў. Пішучы гэты тып апавяданняў, Колас у нейкай ступені карыстаўся з узораў фальклору або знаходзіўся пад агульным яго уплывам. Зразумела, што ў даным выпадку трэба згадзіцца з Пшырковым, які гаворыць аб залежнасці „Казак жыцця“ Коласа ад народных казак. Аднак гэтай залежнасці нельга трактаваць так крайне і катэгарычна, як гэта зрабіў Пшыркоў.

Другую групу алегарычных апавяданняў Коласа складаюць 27 твораў. Героямі гэтых твораў з'яўляюцца расліны, птушкі, адухоўленыя мёртвыя прадметы, атмасферныя з'явы. Усе гэтыя творы, згодна са сцвярджэннем Бярозкі, не маюць супольных рыс з беларускімі казкамі. Варта аднак падкрэсліць, што такія рысы гэтых апавяданняў, як эмацыянальная стылістыка і анімізацыя раслін, застаюцца ў пэўным падабенстве да эмацыянальнай стылістыкі і анімізацыі раслін, выступаючых у беларускіх народных песнях. Зразумела, што з гэтага адлеглага падабенства ў ніякім выпадку нельга зрабіць вываду аб якім-колечы ўплыве народных песень на „Казкі жыцця“.

Ужо цытаваны Бярозка, які адкідаў залежнасць „Казак жыцця“ ад народных казак, выводзіць гэты Коласаўскі жанр з літаратурных крыніц. Бярозка бачыў падабенства формы „Казак жыцця“ да творчых прынцыпаў нямецкіх рамантыкаў. Аднак апрача падабенства бачыў ён таксама розніцу: „Вельмі лёгка ўбачыць, што пантэізм аўтара „Казак жыцця“ далёка не падобны на пантэізм іенскіх рамантыкаў: там былі рэлігійна-містычныя адносіны да прыроды, тут рэалістычныя — аб вялікім адзінстве чалавека і прыроды“.

Да сёння па сутнасці не выяснена справа прычын, з-за якіх Колас прыняў алегарычную форму выяўлення сваіх ідэй і поглядаў. У далейшым няясна, чаму сур'ёзныя філасофскія, грамадскія, нацыянальныя, маральныя праблемы былі пісьменнікам вылажаны не ў рэалістычных, а ў алегарычных творах. Здаецца нам, што цэнзурныя прычыны адыгрывалі ў даным выпадку другарадную або ніякую ролю. У большасці выпадкаў змест і ідэі, выступаючыя ў „Казках жыцця“, маглі быць выяўлены ў рэалістычных творах. Нават найбольшая асцярожнасць не вымагала ад пісьменніка так далёка ідучай многазначнасці і сімвалічнасці, сэнс якіх нярэдка не разгаданы крытыкамі да сёння.

Можна думаць, што выбар алегарычнай формы твораў быў акрэслены захапленнем пісьменніка рамантычнай эпохай, настроем адзіноцтва, ідэяй філасофскага задумення над жыццём, якое заўсёды было напоўнена падтэкстамі і загадкамі.

(Працяг са стар. 3)




Жалко маті і отца,
А узяті сіроту —
Мэнш будэ клопоту...

Разнавіднасць адной і той жа песні сведчыць аб вялікім росквіце вуснай паэтычнай творчасці і багацці душы народу. Для прыкладу прывядзем яшчэ адну песню, запісаную ў Збучы, якая ў сваіх змененых формах выступае таксама ў ваколіцы Бельска. Вельмі выразна адлюстраваны тут і несправядлівасць пры наборы, і развітальны сум, і плач маткі, і фініш службы.

Наступіла чорна хмара,
А доўкола сіня.
Породіла біэдна ўдова
Хорошого сына.
Нэ поспіэла она його
На рукі узяті,
Запісала ўся грумада
Ў рэкруты отдаті.
Нэхай пішут, нэхай бэрут
Тыя п'янічэнькі,
Што дэнь п'ют, а нуоч гуляют,
Дома нэ бывают.
Розвівайся, сухі дубэ,
Узаўтра мороз будэ,
Яй морозу нэ боюся,
Сейчас собэруся.
Стоіт, стоіт куонь вороны,
Сейчас садовлюся.
Выйіздже із воротув,
Нізэнько склоніўся —
Выбачайтэ, ўся грумада,
Можэ з кім сварыўся.
Выбачайтэ, ўся грумада
І малые деті,
Ой што выйшлі на гуліцю
Рэкрута гледіэті.
Злетіэў піэвень на ворота,
Сказаў кукурэку —
Нэ убачыт маті сына
Од ніні до віэку.
Посіэй, посіэй, моя маті,
Травы на помості,
Як выростэ буйна трава,
Я прыйэду ў гості.
Росла, росла травічэнька,
Стала посыхаті,
Ждала маті свого сына
І стала плакаті.
Коб я была зазулею
І ўмела коваті,
Полетела б на Украіну,
Свого сына выгледаті.
Залетіэла на Украіну
І сказала куку —
Подай, міленькі сыночку,
Мне правую руку.
Ой рад бы я, моя мамо,
Обіэдві податі,
Труна нова ясёнова,
Нэ могу я ўстаті.
Труна нова ясёнова
Плечы стіскае,
Рыжэць пісок, сыра зэмля
Очы засыпае.
Выкопалі на козака
Глыбоку могілу
Посаділі край голуоўкі
Чырвону каліну.

Адным словам, поўны вобраз салдацкага быту.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)




ўжо больш за 1100, і ў свет пайшлі першыя 106 лекараў з дыпломамі Academiae Medicae Bialostocensis.

Пайшлі? Дакладней было б сказаць — засталіся. Бо большасць з іх склалі аснову малодшых навукова-педагагічных кадраў, сталі асістэнтамі, паступілі ў аспірантуру, заняліся лячэннем хворых у беластоцкіх бальніцах. Разам з прыбыўшымі сюды з розных рэгіёнаў Польшчы спецыялістамі яны паклалі падмурак беластоцкага медыцынскага навуковага цэнтра. Кожны з іх увасабляў якасці нястрымнага фантаста і зацяглага рабацягі адначасова — людзей, якіх нараджае, бадай, толькі наш сацыялістычны лад. Прысвоенае акадэміі імя супрацоўніка У. І. Леніна, выдатнага дзеяча польскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху Юльяна Мархлеўскага, які тут, у Беластоку, працаваў у 1920 годзе ў першым рэвалюцыйным урадзе Польшчы, яшчэ больш мабілізавала і натхняла.

Настойліва, крок за крокам акадэмія заваёўвала прызнанне і аўтарытэт сваімі дасягненнямі ў навучанні і адкрыванні ўсё лепшых сродкаў і спосабаў ратавання людскога здароўя — найкаштоўнейшага скарбу ўсіх часоў. Спалучала яна гэта разам з выдатным уласным укладам у стварэнні навейшай і спраўнай службы здароўя ў нашым рэгіёне. Расла і сама: у 1968 г. было адкрыта стаматалагічнае аддзяленне, а ў 1978 г. — факультэт фармакалогіі.

Цяпер у Беластоцкай медыцынскай акадэміі працуюць чатыры звычайныя прафесары, дваццаць тры надзвычайныя, сорак дацэнтаў — разам каля 440 асоб навукова-педагагічнага персаналу. Вучыцца ж тут 2004 студэнтаў, з гэтага — 1497 на лекарскім факультэце, 374 — на стаматалагічным і 133 — на фармакалагічным. За мінулыя 30 год яна падрыхтавала больш за 5 200 лекараў, у ёй абараніла працы на званне доктара медыцынскіх навук больш за 520 асоб, габілітавалася 80 дактароў медыцыны.

Сёння восем з дзесяці лекараў у Беластоцкім, Ломжынскім і Сувальскім ваяводствах — гэта яе абсальвенты. Вырасла яна ў магутны навукова-педагагічны цэнтр з 7 інстытутамі і 46 клінічнымі амбулаторыямі. У ёй, між іншым, працуюць 22 клінікі, цэнтр штучнай ныркі, 11 кабінетаў, сярод іх — паталагічнай анатоміі, клінічнай мікрабіялогіі і шэраг іншых. У ёй у 1974 г. паўстаў першы ў Польшчы кабінет геранталогіі. У распараджэнні акадэміі 1160 ложкаў для пацыентаў у розных клініках. Тут на працягу года ў сярэднім лечыцца 37 тысяч 500 хворых, праводзіцца больш за 900 тысяч лабараторных, 55 тысяч радыялагічных, 14 тысяч электракардыяграфічных і дзесяткі тысяч іншых даследаванняў. Штогод у акадэміі павышае свае кваліфікацыі больш за 1000 лекараў.

Асноўнай рысай характару вучоных акадэміі быў і ёсць творчы непакой і імкненне ўнесці ўласны ўклад у развіццё навукі. За мінулыя тры дзесяцігоддзі яны выдалі больш за 8 тысяч 500 публікацый, з іх адну трэцюю — за межамі Польшчы. Высокае прызнанне ў краіне і на свеце здабылі адкрыцці і дасягненні ў даследаваннях згусання і энзымалогіі крыві прафесара К. Булюка, прафілактыкі ракавых захворванняў у жанчын прафесара С. Сошкі, вывучэнне прыроды паўночна-ўсходняй Польшчы і аховы натуральнага нава-

**БУГ У АГНІ**

# ЯК ЦЯЛЯ ЖЫЦЦЁ ВЫРАТАВАЛА

Аб незвычайных перажываннях **Аляксандра Панасюка** чуў я ўжо даўней, але доўгі час не ўдавалася мне сустрэцца з ім у час маіх паездак у Слохі Аннапольскія. То ў лес за дровамі ён выязджаў, то на скупачны пункт у Сямяцічы дастаўляў свіней... Аж урэшце...

Быў ужо цёмны вечар. Я вяртаўся з вёскі **Мінчэва**, дзе таксама ў дотах заўзята змагаліся савецкія воіны. Гэта аж за Драгічынам... Хата Аляксандра Панасюка ў Слохах Аннапольскіх мае нумар 17. Гэта я ўжо ведаў. Драўляная, пастарэлая сялянская хата. Праз вокны прарывалася на панадворак яркае электрычнае святло. На маю ўцеху, гаспадар быў дома. Сядзеў на кухні, закіданай лазой, і выплятаў кошыкі.

— Я сам здзіўляюся, — сказаў ён, — якім цудам выратаваўся я ад смерці і як удалося мне дачакацца амаль васьмідзесяці гадоў жыцця. Столькі ж разоў цётка Кастуха зазірала мне ў вочы! Я ж яшчэ ў першую сусветную вайну быў на фронце і ваяваў з немцамі. Памятаю, што недзе ў пінскіх балотах тры дні не вылазілі мы з акопаў, такі бой ішоў! Нават мяне там крыху паранілі...

— Мяне болей цікавіць тое, што ў Слохах, — нясмела спыніў я яго.

— Ага, магу і аб гэтым, — заявіў дзядзька Аляксандр. — Толькі з чаго пачаць?

— З таго, — падказаў я, — як тут распачалася вайна ў чэрвені 1941 года.

— Гэта было ў нядзелю досвіткам, — кажа ён. — Добра памятаю, бо якраз у суботу на мяне і майго суседа, Антона Чырынду, выпала чарга трымаць у вёсцы начную варту. Найперш у клубе былі гульні.

Я адкрыў рот і хацеў сказаць, што ўжо пра гэта ведаю, але гаспадар рашуча заявіў, каб яму не перашкаджаць, бо саб'ецца з толку і ўсё яму паблытаецца, а што ведае, дык і сам раскажа...

— Пасля поўначы ў вёсцы стала ціха, — працягваў свой расказ Аляксандр Панасюк. — Замоўклі песні, людзі разышліся па хатах. А я і Чырында ходзім з канца ў канец, каб не заснуць. Прыселі на лавачцы, да нас далучыліся два пагранічнікі, якія вярталіся з заставы ў Заечніках. Сядзімо, курым. А мяне штосьці падкусіла, каб уголас выказаць усё тое, што ўжо пару гадзін па галаве хадзіла. То ж колькі разоў услухаешся ў начную цішыню, заўсёды з-за рэчкі, дзе тады былі немцы, разносіўся лоскат гусеніц і грукат танкавых рухавікоў...

— Што там, таварышы, на граніцы? — запытаў я ў пагранічнікаў. — Чуеце, як германец рыхтуецца? Калі вайна?

— Ты правакатар! — падскочыў да мяне адзін з пагранічнікаў. — А ну-ка, пайшлі!

Бачу, што тут ужо болей не пажартуеш. Паказваю дакументы, і Чырында за мяне заступаецца, і гэты другі пагранічнік угаворвае свайго сябра, каб не гарачыўся. З усяго гэтага я кінуў варту і вярнуўся дамоў. Не паспеў нават заснуць, а тут ужо ляцяць снарады. Найперш паявіўся над вёскай самалёт. А пасля гарматы... то на Сямяцічы, то яшчэ недзе далей. Пазрываліся са сну савецкія афіцэры і не ведаюць, што рабіць, толькі спрачаюцца між сабой, ці гэта вайна ці манёўры, ці можа нейкая правакацыя. Адзін з іх кінуўся да тэлефона, каб звязацца са штабам у Башках, але тэлефон маўчаў, сувязь была парвана. Тады выступіў палітрук...

(Працяг на стар. 6)

# ДАВЯЛОСЯ ЖЫЦЬ БАГАТА

(Працяг са стар. 1)

у месяц, і была гэта ў той час вялікая падтрымка сямейнага бюджэту, бо якраз Дзем'янюкі будаваліся. На будову жывёлагадоўчых будынкаў не бралі дзяржаўных пазык.

Пачынаючы з 1979 года, Марыя Дзем'янюк перастае працаваць у дзяржаўнай установе і ўключаецца актыўна ў працу на гаспадарцы, асноўваючы яшчэ адну спецыялізацыю — гадоўлю гусей-нёсак. Цяпер можна пачуць ад яе жартоўныя словы: „Я ад гусей — муж ад авечак". Але гэтак запісана і ў кнігах сельскагаспадарчай службы. Зразумела, што працуюць яны супольна, згодна і разумна. Дзве з палавінай гадзіны раніцай і дзве з палавінай гадзіны падвечар. Добрая арганізацыя працы аблягчае Дзем'янюкам штодзённую працу, дае час і на адпачынак, і на культурныя разрыўкі, і на выезды на экскурсіі, і на грамадскую дзейнасць. Бывае Іван Дзем'янюк часта на розных сходах, на якіх вырашаюцца справы іх вёскі, гміны і нават ваяводства. Бо ён гмінны радны, член Ваяводскага камітэта ПАРП і дзеяч іншых арганізацый. Узнагароджаны ён Сярэбраным Крыжам Заслугі, сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны" і іншымі ўзнагародамі.

Марыя Дзем'янюк — прапагандыст сучаснай рацыянальнай кухні і бытавой тэхнікі, а таксама прыгожых агародчыкаў кветак і агародніны.

Але вернемся яшчэ раз да другой спецыялізацыі Дзем'янюкоў. З інкубатара закупілі яны 500 штук гусянят. Клопатаў хапала. Абагравалі іх электрычнай лямпай, клапаціліся аб іх, як аб дзецях. І яны раслі, і цяпер на іх ферме ходзіць 456 штук сытых птушак. Пачнуць яны несціся ў канцы лютага. Цяпер Іван Дзем'янюк рыхтуе гнёзды. Спецыялістамі аблічана, што гуска павінна на працягу сезона знесці не менш як сорак яечак. А за кожнае яйцо з прэміяй Дзем'янюкі будуць атрымоўваць 37 злотых. Такім чынам кожная гуска-нёска павінна даць не менш як тысячу злотых чыстага даходу. А гускі ж нясуцца 3 гады. Ды яшчэ з гусей шмат пер'я. А калі стануць слаба несціся, прададуць іх на мяса.

— Як усё добра пойдзе, — сцвярджаюць згодна Вера і Іван Дзем'янюкі, — дык мы павінны на працягу года мець чыстага даходу ад авечак і гусей каля сямісот тысяч злотых.

Як кажуць, Дзем'янюкі не думалі жыць багата, аднак давялося. Давялося, дзякуючы іх смелай гаспадарлівасці, спецыялізацыі.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



кольнага асяроддзя прафесара Б. Чэчугі і шэрагу іншых беластоцкіх вучоных. У непасрэднай сувязі з акадэміяй дзейнічае 39 навуковых таварыстваў, большасць з іх, бо аж 23, уваходзіць у Аб'яднанне польскіх лекарскіх таварystваў, а 16 цесна супрацоўнічае з Польскай акадэміяй навук. Іх дзейнасць нацэлена ў асноўным на пашырэнне ведаў у акрэсленай спецыяльнасці і грамадскую працу для асяроддзя. Акадэмія праводзіць комплексныя даследаванні над 70 тэмамі для розных галін і дзялянак навукі і гаспадаркі краіны, блізка супрацоўнічае з многімі прамысловымі прадпрыемствамі. Кожны год беластоцкія вучоныя атрымоўваюць самыя высокія дзяржаўныя ўзнагароды за свае дасягненні.

Навуковыя сувязі акадэміі даўно выйшлі па-за межы Польшчы. Ужо 20 год яна блізка супрацоўнічае з Медыцынскім інстытутам у Гродне. Асабліва плённыя сувязі склаліся паміж працаўнікамі абодвух школ у галіне даследавання заразных і псіхічных захворванняў, біяхіміі і інш. Узаемны абмен навуковых працаўнікоў, супольныя даследаванні, падрыхтоўка і выданне публікацый, абмен паміж бібліятэкамі, удзел у навуковых з'ездах, канферэнцыях, сімпозіумах і іншых мерапрыемствах прыносяць канкрэтную карысць для абедзвюх вышэйшых школ. Са сваімі гродзенскімі калегамі ўтрымоўваюць блізкія сувязі беластоцкія студэнты-медыкі — удзельнічаюць у студэнцкіх навуковых канферэнцыях, абменьваюцца спартыўнымі камандамі, ездзяць на вакацыйныя практыкі і г.д. Плённа таксама развіваецца супрацоўніцтва Беластоцкай акадэміі з вышэйшымі медыцынскімі школамі ў Маскве, Каўнасе, Тбілісі, блізкія сувязі яна ўтрымоўвае з роднаснымі школамі ў Балгарыі (Софія), Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (Дрэздэн), Чэхаславакіі (Кошыцы), Францыі (Парыж), Швецыі і інш.

На ўрачыстым пасяджэнні Сената вучоных Беластоцкай медыцынскай акадэміі 2 лютага 1980 г., які адкрываў святкаванні 30-годдзя гэтай заслужанай для здароўя нас усіх і польскай навукі ўстановы, на самым ганаровым месцы віднеўся яе герб — вуж эскулапа на фоне зялёнага дуба. Іменна гэтае магутнае дрэва, што запусціла глыбокія карэнні ў родную глебу і высока ўзняло сваю разгалістую крону, найбольш трапна ўвасабляе Беластоцкую медыцынскую акадэмію і яе ролю ў нашым рэгіёне. І не толькі ў нашым, бо гэты жыццерадасны герб вы можаце ўбачыць на дыпломе кожнага дванаццатага лекара Народнай Польшчы.

**М. Гайдук**
Фота аўтара

### СПЕЦЫЯЛІСТЫЧНЫЯ

Арлянская гміна з'яўляецца сельскагаспадарчай гмінай. Складаецца яна з 28 вёсак. Мясцовыя ўлады найбольшую ўвагу прысвячаюць максімальнаму выкарыстоўванню існуючых мажлівасцей росту сельскагаспадарчай прадукцыі. Многае неабходна палепшыць у кармовай гаспадарцы, а перш за ўсё ў нарыхтоўцы кішонак. Сяляне ўсё яшчэ занадта мала робяць падсевак, мала рацыянальна выкарыстоўваюць сенажаці і пашы (зялёныя ўгоддзі займаюць тут плошчу ў 32% усіх зямельных угоддзяў, г. зн. 2333 га сенажацяў і 1999 га пасбішчаў). Неабходна лепшае гаспадаранне на дзяржаўным фондзе зямлі.

Адным з асноўных шляхоў да павелічэння колькасці свойскай жывёлы з'яўляецца спецыялізацыя. У гміне ёсць ужо больш 40 такіх гаспадарак.

Члены партыі Ян Клін з Крываціч, Аркадзь Пасынюк і Уладзімір Тымашыцкі — абодва яны са Шчытоў і Ян Жужаль з Міклашоў прадаюць дзяржаве сельскагаспадарчую прадукцыю ў сярэднім на суму 300-400 тысяч злотых у год з кожнай гаспадаркі (калі ў сярэднім на адну гаспадарку ў гміне прыпадае сума 54,7 тыс. злотых). **(яц)**

**ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА**

# МАЛАЦЬБА

Ага, паслухайце, маладыя людзі. Для вас цэп — музейная вартасць, не арудавалі вы ім (каб ён прапаў пропадам!). Аднаму цэпам малаціць мучыцельна, стома прыходзіць не ў пару. Сам ад раніцы да ночы: бах, бах, бах і бах! Катарга — не работа. Удваіх малаціць і весялей і лягчэй: у працу ўсяляецца рытм. Утраіх работа ідзе іграючы, стомы як бы не было. А ў чатыры цапы то работа артыстычная. Вось мы, чатыры хлопцы, і дагаварыліся катаргу замяніць у забаву. Аж чорт прынёс з горада разнікоў (свінабояў). Пачуўшы нашу польку, прыйшлі да стадолы, дзівуюцца нашаму спрыту, адзін з іх выказвае гарачую ахвоту ўключыцца ў спектакль.

Адзін з малацьбітоў (начальнік) лёгка ўдарае па каласках крайняга снапа, партнёры адзін за другім уключаюцца ў рытм удараў, цапы ўсё вышэй узвіваюцца ў цесным квадраце, бы матылькі ў ясны маёвы дзень і, на дзіва, не крануўшы адзін другога, са свістам абрушваюцца на снапы і з імпэтам адскакваюць уверх. Малацьбіты набіраюць усё шпарчэйшы размах. Нахіленыя крыху наперад, моцна заціснуўшы ў руках цапельні, баксёрскім крокам то наступаюць, то адступаюць. Бы ў танцы. Цапы дакладна прамацваюць снапы, удар апошняга малацьбіта завяршае размер такта. Гэтая музыка, відаць, добра знаёмая паэту В. Шведу. І пахвальна, што ён гэту цяжкую рэальнасць выказаў у сваім вершы. У ім слова „сухі", насуперак крытыку М. Шаховічу, на месцы. Гэтую праўду пацвердзіць кожны, хто меў дачыненне з цэпам, каму ад крапення ім (дзень у дзень, ноч у ноч) нямелі ногі, балелі рукі і рэбра, нылі бакі. Ім усім, як і мне, слова „сухі" авёс мае паважнае значэнне, бо сухое збожжа выбіваецца да зярнятка пры куды меншай затраце сіл, чым пры малацьбе сырога, недасушанага, дзе бі не бі, не выб'еш усіх зярнят. Так што, толкам разабраўшыся, няма чаго мне навучыцца і з крытыкі другога высокаадукаванца (хоць і даволі яснай і зразумелай у параўнанні з першай). Відаць, каб ім давялося малаціць збожжа, то можа і абтаўклі б яго (ці не прачом?), але толькі сухое, а калі б выпала мокрае лета — пакінулі б немалочаным: навошта мучыцца, пайшоў у краму і купіў хлеба (пажоўвай у ахвоту і шукай формы і стылі без натугі, не пацеючы). Не адным хлебам жыве чалавек. Творчасць! Во! Грунт — метафары! Не нам, таленавітай моладзі „белавежцаў", думаць, як вырошчваецца хлеб, як яго малоцяць, мелюць, пякуць. Гэта справа весяў. І малая бяда, калі яны і счэзнуць (вёска ж старэе). Нам, творцам цудоўных метафар, раз плюнуць — і створым хлебаробныя машыны з электроннымі мазгамі, якія пакорна дзень і ноч будуць сыпаць са свайго чэрава буханкамі, булачкамі і тортамі, толькі знай падбірай.

Так, не так, а важна, зглыбіўшы гісторыю іншых народаў, не забываць пра свой народ. Безразважна, апусціўшы вушы, з зажмуранымі вачыма ісці за яцвяжскім прашчурам. А такую з'яву бачым усе. І, як бы, баімося заікнуцца. Мала таго, калі я ў сваёй палосцы выказаў шкоднасць таптання традыцый нашага народа, то сустрэўся з несамавіта стойкім пратэстам з боку заснавальнікаў нашай сучаснай культуры. Дваракоўскі павучае мяне, невука: „крытыка павінна быць сяброўская, сардэчна-цёплая" і накідваецца на мяне, як на злачынца, пагарджаючы мой сялянскі стан пагардай яснавяльможнай сферы (дзе ж тут сяброўства?). Але гэта дробязь. Гэтым я не пераймаюся. Затое пераканане Дваракоўскага, што мая крытыка нічога не навучыць — трагічнае. Я аднак не панікую, а згодна з народнай прыказкай „не зважай на ўраджай, а жыта сей", стаю на традыцыйных поглядах свайго сялянскага саслоўя, што лічу коранем нашай нацыянальнасці, неразлучна зросшымся з роднай зямелькай, якая нам святая, як святой ёсць традыцыя бацькоў, дзядоў, прадзедаў, якія займелі мілагучны назоў „беларусы". Гэта наш найдаражэйшы скарб.

Думку дакажу ў наступны раз.

**Дзядзька Квас**




Дарагое Сэрцайка, Мірэк вучыўся ў нашай школе. У мінулым годзе ўжо закончыў тэхнікум, а мне астаўся яшчэ гэты год. У апошнім для Мірка годзе вучобы мы пасябравалі. Ён запрасіў мяне на стаднёўку. І пасля ўжо спатыкаліся мы штодня і ў школе і па-за школай. А на канікулах Мірэк прыязджаў да мяне на вёску. Памагаў пры ўборцы збожжа, а ў свабодны час мы хадзілі на рэчку, якая непадалёк нашай вёскі. І было цудоўна. Але пасля канікул я вярнулася ў школу, а Мірка забралі ў армію. Служыць ён недалёка і ўжо некалькі разоў быў дома. Тады наведваў і мяне на кватэры. А я жыву не адна. Яшчэ дзве дзяўчыны-вучаніцы са мной. Аднойчы Мірэк прыехаў неспадзявана. Мяне не застаў дома. Гэта была субота, і я з сяброўкамі і сябрамі з класа пайшла на дыскатэку. Я і не хацела ісці, але сяброўкі кажуць, чаго будзеш сядзець адна, ідзем, павесялімся разам. І я пайшла. Цяпер шкадую вельмі. Мірку дзяўчаты на кватэры не адразу сказалі, дзе я, ён сядзеў, чакаў, дапытваўся ў іх, і ўрэшце адна сказала праўду, дзе я. Мірэк тады адразу выйшаў. Калі я вярнулася і дзяўчына мне аб гэтым сказала, я ледзь не самлела. Ды аблаяла яе за тое, што праўду сказала. Магла б жа выдумаць штосьці іншае. Ад тае пары даўжэйшы час я не мела ніякай весткі ад Мірка. Кожны дзень заглядала ў паштовую скрынку. Урэшце ёсць. Паспешна разрываю канверт. Чытаю. У лісце Мірэк дакарае мяне, што так паступіла. Гневаецца. І што мне цяпер рабіць, як паладзіцца з Міркам?

Крыся з Беласточчыны

Крыся! Нічога ў тым дрэннага, што пайшла ты з сябрамі ды сяброўкамі на дыскатэку. Мірка ж ты не спадзявалася. Гэта ж немагчыма, каб дзяўчына два гады, пакуль хлопец войска адслужыць, і кроку нідзе не ступіла. Мірку ў войску, вядома, куды захочаш — не пойдзеш, і да дзяўчыны каханай вырвацца нялёгка. А тут яшчэ не застаў цябе, дык і сумна і крыўдна стала. Але ўжо гэтакі лёс хлапцоў. Адпішы Мірку як найхутчэй пісьмо. Ён не менш, як ты, яго чакае. Атрымае, прачытае, весялей на душы стане, дык і гнеў пройдзе.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны пане Астролаг! Прашу выясніць некалькі маіх сноў, паколькі я непакоюся, што яны абазначаюць нешта вельмі дрэннае. А вось першы сон. Мне снілася, што я мыла сабе галаву. Валасы мае былі доўгія, але вельмі рэдкія.

Другі сон. Я была на полі, каб прыгнаць дахаты кароў цёткі. Высветлілася, што гэта не поле цёткі, а дзяржаўнае, а каровы — гэта ўласнасць усёй вёскі. Я нават пазнавала, якая карова каму належала. Каровы былі тлустыя і велізарныя, так што я пачала іх баяцца. Было іх вельмі многа.

Трэці сон, які мне запомніўся надоўга. Гнаў мяне велізарны страшэнны мужчына. Ён хацеў са мной ажаніцца, але я яго вельмі баялася. Людзі схавалі мяне ў... апельсіны. Мужчына не мог мяне знайсці, і з гэтай радасці я прачнулася.

Яніна з Беластока

**Яніна!** Твае сны нядобрыя. Першы сон абазначае, што нехта знікне з твайго жыцця і ў гэтым сэнсе будзеш бедная. Другі сон гаворыць аб тым, што нейкі прыбытак пройдзе ў цябе каля носа. Трэці сон таксама сведчыць аб нейкай сварцы ці непрыемнасці.

**Астрон**



ФОТА ПА ЗАКАЗУ **CZERWONE GITARY**

## ФАЛЬКЛОР

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




*Поклонылася чырвона каліна до воды квіетонькамі,*
*до воды квіетонькамі.*
*Поклонылася молода діевчына матёнці слёзонькамі,*
*матёнці слёзонькамі.*
*— Декую тобіе, моя матёнко, за твое выховане,*
*за твое выховане.*
*Оддаеш мэнэ, молодюсеньку, на віекі в горовані,*
*на віекі в горовані.*

Ад Яўгеніі Тышук, год 50, вёска Вілінава, гм. Мельнік, запісаў у лістападзе 1979 г. Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфраваў Ян Бондар.

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У часе рэгуляцыі ўласнасці сельскіх гаспадарак гаспадарка была запісана на сына, а бацьку ўстаноўлена пажыццёвае ўтрыманне. У 1978 годзе сын быў прызнаны інвалідам II групы і перадаў зямлю дзяржаве за пенсію. Сабе пакінуў сядзібу з будынкамі. Вызначаючы пенсію сыну, дзяржава прызнала таксама дадатак для бацькі — 750 зл. у месяц. Паміж бацькам і сынам узніклі непаразуменні, і сын пагражае бацьку, што яго выганіць з хаты, бо цяпер ён атрымоўвае пенсію ад дзяржавы, а сын не мае абавязку яго ўтрымоўваць. Ці бацька мае права аставацца ў хаце і карыстацца з іншых будынкаў?

АДКАЗ: Калі хто аддае дзяржаве за пенсію гаспадарку, на якой установлена права да пажыццёвага ўтрымання для папярэдняга яе ўласніка, то права гэта пагасае, а дзяржава, згодна з законам з 27.X.1977 г. аб пенсіях і іншых належнасцях для сялян і іх сем'яў, выплачвае таму, хто з гэтага права карыстаўся — дадатак — 750 зл. у месяц. Аднак калі той, хто перадаў дзяржаве гаспадарку за пенсію, затрымоўвае сабе дом і гаспадарчыя будынкі, то той, хто мае права на пажыццёвае ўтрыманне, не траціць права на карыстанне з іх так, як да гэтага часу з іх карыстаўся. Гэта права яму прыслугоўвала б нават у выпадку, калі б уласнік прадаў дом і будынкі. Таму сын не мае права патрабаваць, каб быцька пакінуў дом і апаражніў будынкі.

## Куток практычных ведаў




### ПАКУЛЬ НЕ НАДЫШЛА ВЯСНА...

...Варта падумаць аб тым, што апрануць на першыя промні цёплага сонца ў вольны ад працы дзень. Пераглядаючы апошнія журналы мод, можна заўважыць, што сонца там ужо грэе ваўсю, а мода, на жаль, не выйшла нам на карысць. На гэты раз няма амаль нічога новага, здзіўляючага — мода паўтарае амаль без змен спакойную моду 50-х гадоў. На чале гэтай моды стаяць бясмертныя спартыўныя блузкі і вузкія спаднічкі.

Мы, праўду кажучы, за апошнія гады ад гэтай моды неяк адвыклі, бо і ў звычайны дзень жанчыны выглядалі, як калісьці толькі ў карнавале. На дапамогу прыходзяць тыя ж праектанты, якія загадваюць апранацца сёння па класічнаму стылю: спадніцку і блузку можна ўпрыгожыць біжутэрыяй, накінуць на плечы вялікую ажурную хустку і г.д.

Усім, хто хоча выглядаць модна, напамінаю: не навешвайце на сябе замнога золата! Пры класічным стылі ў вопратцы — біжутэрыя павінна быць тыпу недарагой. Я тут не маю на думцы свяцідлаў розных колераў з чэшскіх калекцый. Павінны гэта быць аздобы з фарфару, фаянсу, эмаліі, скуры, штучныя кветкі, пер'і і г.д. Калі ўжо надта любіце золата, дык купляйце такое, каб імітавала яно штучную біжутэрыю (напрыклад, з караламі, са слановай косцю і г.д.). Няхай усе думаюць, што гэта пластмаса! Так модна.

Наогул сёння залатая біжутэрыя абсалютна выключае вялізныя пярсцёнкі, тоўстыя вырабы, у якія так часта любяць усаджваць грошы нашыя панюсі. Павінна яна быць па меры магчымасці далікатная і мініятурная.

**Сяброўка**



(Працяг са стар. 5)

# ЯК ЦЯЛЯ ЖЫЦЦЁ ВЫРАТАВАЛА

— Можа Локцеў? — не вытрымаў я.

— А хто яго ведае, можа і Локцеў... Але не збівайце. Выступіў палітрук і кажа:

— Нікуды мы не пойдзем. Не на тое тут пабудаваны доты, каб мы іх пакідалі без бою.

Так ім сказаў. Сапраўды, тут гэтыя точкі былі. Я сам на дзве змены працаваў пры ўмацаванні граніцы. Толькі не паспелі мы яшчэ ўсяго зрабіць і гэтыя точкі не цалкам былі падрыхтаваны да баявых дзеянняў. Але палітрук сказаў, што адступаць нельга, дык усе яны разбегліся па бункерах. Пачалі развозіць боепрыпасы, рыхтавацца да абароны... Так прайшла нядзеля. Немцы пакуль што ў нас не паяўляліся. Пайшлі іншымі дарогамі. Але ў панядзелак імчацца грузавікі...

— Нямецкія?

— Так. Нямецкія! І ад Высокага і ад Брэста, бо гэтыя гарады былі ўжо заняты. Баранілася толькі Брэсцкая крэпасць. Дык імчацца нямецкія машыны, запоўненыя войскам. Сядзяць салдаты з аўтаматамі на каленях, рукавы закасаны, у глыбокіх касках... А рускія з дотаў па іх... Нарабілі тады тут кашы... А пасля яшчэ аднаго маёра забілі і дакументы ад яго ўзялі, а там важныя планы і загады былі... Разам з гэтым маёрам быў паранены і яго шафёр...

— Кажуць, што перавязку яму рабіла адна жанчына з вашай вёскі, якая ўмела па-нямецку гаварыць, — уключыўся я.

— Так, гэта мая суседка, **Марыя Чырында,** ужо пакойная. Яна яшчэ ў час першай сусветнай вайны ў немцаў у маёнтку працавала і там гэтай мовы навучылася. Дык калі нашы людзі пайшлі паглядзець гэтага маёра, якога адзін лейтэнант прыхлопнуў, бачаць — яго шафёр яшчэ дыхае. Занеслі яго ў школу і паслалі за гэтай Манькай... Я туды не хадзіў, дык не бачыў, што яна рабіла. Толькі кажуць, што гэтага шафёра зараз адправілі за Буг у шпіталь. Гэта было ў аўторак, а ў сераду — недзе так каля дзесятай гадзіны ў Слохах паявіліся ізноў гітлераўскія салдаты. На адным панадворку, пераважна тут ад Буга, немцы, а ў суседнім — рускія, што выйшлі з бункераў, каб чым-колеч падсілкавацца ў гаспадароў. Немцы не спадзяваліся рускіх і наадварот. Глядзяць на сябе з-за плоту і не страляюць. Мы таксама глядзім на гэта і чакаем: што з таго будзе? Аказваецца вось што: немцы адыходзяць з вёскі, а рускія хаваюцца ў доты. Нам быццам камень хто зняў з грудзей. Бо вядома, дзе хто-колеч ваюе, там найбольш церпіць мірны народ... Прайшло мінут 20-30 і... пачалося пекла. Б'юць гарматы, вёска гарыць... Яшчэ не з нашага канца, толькі адтуль, ад Клекатова, дзе гэтага маёра забілі... Што ж, калі гарыць, дык трэба ратаваць. Бягу на ратунак. Ад дзедаў-прадзедаў у нас ужо так заведзена, што селянін дапамагае селяніну ў бядзе... Дабег да сярэдзіны вёскі, а там крычаць, што і людзей гітлераўцы б'юць... Каго б'юць на месцы, каго на расстрэл гоняць за вёску на выган, а каго нават і ў агонь упіхаюць... Як таго... як ён называўся, — звярнуўся дзядзька да жонкі. — Ігнат, здаецца... Так, Ігнат Семянюк, што быў зусім абгарэлы... Я, значыць, у сваю хату, назад. Было ў нас тады двое дзетак, дзве дочкі: трохгадовая **Марыся** і паўтарагадовая **Валя**.

— Бяры дзяцей, — крычу жонцы, — і ўцякай з хаты, куды вочы панясуць! Найлепш на Буг!

Жонка схапіла адно дзіця на рукі, другое ўзяла за ручку і паімчалася з імі. А я стаю пасярэдзіне хаты і думаю: што мне рабіць? І тады прыгануў, што ў мяне ў хляве асталося цяля, вялікае, добрае, ужо адсаджанае ад каровы цяля. Шкада яго, думаю, згарыць, беднае... Закінуў я сабе цяля за плечы і бягу на агарод. А на вуліцы ўжо немцаў поўным-поўна. І суседа Мікалая б'юць, ці знуткуюцца над ім, бо крычыць ён, як са шкуры абдзерты. Дык я яшчэ хутчэй. Немцы мяне не чапаюць. Толькі смех іх чую. Зачапіўся я за нейкі корань і паляцеў носам у траву. А цяля на мяне, бо з рук не выпусціў. Гітлераўцы яшчэ галасней зарагаталі. Чую, што яны зусім блізка, абступілі з усіх бакоў... Што рабіць? Памаленьку падымаю галаву з рукамі, высока выцягнутымі ўверх, і чакаю... зараз... праз хвілінку... вось... вось... каторы з іх стрэліць... Перада мною рвецца маё цяля, намагаючыся падняцца на ногі... Я забываю аб карніках і зноў хапаю за сваё цяля. А яны са смеху аж за жываты бяруцца. Зноў падымаю рукі ўверх і чамусьці на польскай мове пытаю, ці магу ісці. „Лёс! Лёс!" — чую ў адказ, дык паварочваю назад і найперш не спяшаючыся, затым і бягом імчуся дахаты. Там жа ж у мяне яшчэ ўсё асталося...

На гэтым яго клопаты з карнікамі не закончыліся, а толькі пачаліся. Аднак расказ Панасюка прадоўжу я праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЧАГО Я НЕ ПАСПЕЎ СКАЗАЦЬ НА З'ЕЗДЗЕ

У сувязі з тым, што дыскусія на з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы" прадоўжылася, а не хацеў я яшчэ больш яе прадаўжаць, тое, што планаваў сказаць, хачу сёння напісаць.

Думаю, што няма патрэбы змяняць правілы конкурсу „Карэспандэнт года". Такіх, што пішуць больш абшырныя матэрыялы і займаюць далейшыя месцы, бо гэтых матэрыялаў менш, ёсць тры-чатыры асобы. Нас (у тым ліку і мяне) кожны год рэдакцыя ўзнагароджвае спецыяльнымі дыпломамі, кніжкамі. І думаю, што нам няма ніякай крыўды. Зрэшты, ніхто нам не забараняе пісаць больш кароткія матэрыялы, але ў большай колькасці.

Не падабаюцца мне многія адказы розных устаноў і прадпрыемстваў на крытычныя заметкі ў „Ніве". Назіраецца часта, што розныя начальнікі прабуюць выкруціцца сенам. У такіх выпадках рэдакцыя павінна дамагацца больш талковага адказу.

З'езды карэспандэнтаў „Нівы" трэба наладжваць абавязкова ў такія дні і пару года, як дагэтуль. Людзі едуць на з'езд з думкай, каб не толькі сустрэцца з сябрамі-карэспандэнтамі і рэдакцыйным калектывам, але каб і нешта уладзіць ва ўстановах, зрабіць пакупку і г.д. У вольную суботу або ў нядзелю гэтага ўжо не зробяць.

У адным з нумароў „Нівы" паявілася заметка Ф. Хлябіча, у якой ён растлумачвае, адкуль паходзяць некаторыя геаграфічныя названні ў яго ваколіцы. Думаю, што такую справу варта працягваць. Напэўна многія з чытачоў, або і карэспандэнтаў „Нівы", асабліва старэйшыя, ведаюць, ад чаго паходзяць названні некаторых сёлаў, прысёлкаў, узгоркаў, азёрцаў і т. п. Тады трэба аб гэтым абавязкова пісаць у „Ніву". Выратуйма ад забыцця тое, што праз некалькі гадоў можа быць ужо не да ўзнаўлення.

Думаю, што на будучых з'ездах карэспандэнтаў варта прыняць адзін прынцып. Не закранаць канкрэтных выпадкаў занядбанняў ці няправільнасцей, бо з'езд не ў сіле вырашыць гэтыя справы. Выпадкі гэтыя трэба апісваць. На з'ездзе і так ёсць аб чым гаварыць.

Канчаючы сваё слова, хачу падтрымаць заклік сябра-карэспандэнта: больш жанчын сярод карэспандэнтаў „Нівы"! Міжнародны год жанчын даўно закончыўся — цяпер жа да працы (карэспандэнцкай)!

**Пётр Байко**

## ЛЮБЛІН-БРЭСТ

Люблін з Брэстам яднае шматгадовая традыцыя дружбы і братэрства супрацоўніцтва.

У месяцы студзені 1980 года ў Брэсце пабывала партыйна-адміністрацыйная дэлегацыя на чале з І сакратаром гарадскога камітэта партыі ў Любліне Станіславам Мантыкаю і прэзідэнтам горада Лонгінам Зялінскім.

Люблінская дэлегацыя сустрэлася з уладамі горада Брэста, Гродна, Луцка і Арла. Быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве на 1980 год паміж Люблінам і Брэстам. У дагаворы прадбачыцца, што ў верасні адбудуцца Дні Любліна ў Брэсце.

**Іван Ігнацюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

Гарыць зіма. Так у скарачэнні можна было б назваць з'явы, пра якія сёння будзем пісаць. І так, у вёсцы Крывец быў пажар. Вечарам згарэў хлеў і стог сена. Гаспадар страціў 30 тысяч злотых, але ці гэта вымяраецца грашыма?

У Беластоку на вул. Вікторыі ў мураваным будынку, дзе жылі тры сям'і, таксама ўзнік пажар. Згарэла ўсё ў сярэдзіне будынка і часткова сам будынак. Затраты ацанілі на 280 тысяч зл. У час пажару з акна першага паверха выскачыла жанчына, яна паранілася. А іншы жыхар быў папараны. Прычынай пажару было тое, што загарэлася сценка, якая аддзяляла дзве кватэры, а прылягала да печкі.

У вёсцы Старакорнін страшны пажар забраў гаспадару 50 тыс. зл. Згарэла клуня, сельскагаспадарчыя машыны і ўсе плёны. Праўдападобна, пажар узнік з паложаных там лёгкапальных матэрыялаў.

## КРЫВЯЦІЦКІ ГУРТОК БГКТ

Крывяціцкі гурток БГКТ, старшынёй якога з'яўляецца Іван Кавальчук, супольна з гуртком пажарнай стражы арганізаваў музыкі. Яны адбыліся ў мясцовай святліцы сяла Крывяцічы. Было вельмі многа моладзі з Крывяціч і навакольных сёл — Мора, Старога Корніна, Збуча, Махнатага і іншых. Гулялі ўсе культурна і весела.

Ад гуртка БГКТ найбольшы ўклад у арганізацыю музык далі Міша Журавель і Мікалай Суліма, а ад гуртка пажарнай стражы — Іван Пост.

**Іван Кірызюк**

## НЕ ЎСЕ

На дарозе паміж вёскамі Райкі і Леўкі, Бельскай гміны, рабілі рамонт дарогі. Пясок вазілі трактарамі СКРу з Бельска. А раўнялі гаспадары вёскі Райкі. Але толькі пяцёра гаспадароў сур'ёзна аднесліся да гэтага і раўнялі пясок. Ды было іх замала і не зрабілі ўсяго. Засталіся горбы неразраўнянага пяску на дарозе, які замерз.

Здаецца мне, што трэба неяк пераканаць і іншых гаспадароў, каб памаглі давесці дарогу да парадку. То ж добрая дарога патрэбна ўсім гаспадарам, не толькі тым, якія без лішняй прынукі працавалі на ёй.

**Сам**

## ТАК НЕ ПАВІННА БЫЦЬ

Шафёры цяжкіх транспартных самаходаў, вывозячы матэрыял з пагрузачных пляцаў ПКП у Бельску, штораз парушаюць дарожныя законы. На вуліцы 22 Ліпеня ў Бельску, якая прылягае да пляцаў ПКП, шафёры ездзяць па тратуарах, нішчаць іх. Груз і смецце выкідаюць на вуліцу. Гэта сведчыць аб бескультур'і гэтых шафёраў. І варта, каб улады часцей правяралі гэтую вуліцу, а вінаватых „частавалі" парадачнымі мандатамі.

**Іван Кірызюк**

## ВЕТРАКІ

У паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства рэдка можна ўбачыць млын-вятрак, помнік нашай мінуўшчыны. А вось такі вятрак стаіць на ўзгорку каля вёскі Трасцянка, што ў гміне Нарва.

Гэты вятрак перайшоў з бацькі на сына і цяпер з'яўляецца ўласнасцю Міхала Васілюка. Гаспадар — ваенны інвалід, рамантаваць вятрака не зможа, а той стаіць і нішчэе.

Нельга дапусціць, каб вятрак разваліўся. Гэта ж каштоўны помнік матэрыяльнай культуры Беласточчыны.

**М. Лук'янюк**

## УСЁ ДА ЧАСУ

Колькі гэта разоў чытаем у „Ніве" аб калдобінах на дарогах, аб дзірках у мосціках, аб патрэбных рамонтах. Адпаведныя ўлады адказваюць, калі направяць, адрамантуюць. Часта рамантуюць хутка, іншы раз цягнецца гэта месяцамі. Толькі ўсё да часу, да пары. І вось да чаго дайшло ў нашай мясцовасці. Селянін Стараберазова В. Трашчотка павёў каваць каня ў Стары Корнін. Ёсць там па гэтаму спецыяліст. Павёў і дадому не прывёў. Вымушаны быў завесці каня на бойню. Спытаеце, чаму? А таму. Не дапільнавалі мосцік у самой вёсцы. Зрабілася ў мосціку дзірка. Здавалася, каму яна можа зрабіць крыўду? Аж тут маеш табе! Гаспадар вёў каня, конь пакаўзнуўся нагою і зламаў яе. Трэба было дабіць. А якая страта! Коні цяпер дарагія. Гаспадар пацярпеў моцна. А ён жа невінаваты. Хтосьці за гэта павінен адказваць. На дадатак — у гэтага гаспадара не пераліваецца. Сям'я немалая і яшчэ будуецца. Кожны грош лічыцца. А тут на табе!

За гэты выпадак хтосьці павінен адказваць. І выпадак гэты няхай будзе перасцярогай тым, хто адказвае за нашы дарогі. Яны ў кожную пару года павінны быць дагледжаны, каб не рабілі неспадзяваных злых загадак.

**Г. Мароз**

## НАША ПОШТА

Даўно да вас не пісаў, але ніколі не забываў. Я ж з'яўляюся пастаянным падпісчыкам „Нівы", якую кожны тыдзень з нецярпеннем чакаю і ўважліва чытаю. Я ведаю не толькі літаратараў, з некаторымі з якіх асабіста пазнаёміўся ў 1977 годзе, але і ўсіх карэспандэнтаў, многіх дзеячоў бэгэкатоўскага руху. Ведаю назвы вёсак, што ўспаміналіся на старонках тыднёвіка, не горш, чым на Слонімшчыне.

„Ніва" мае здольных журналістаў, якія свабодна даносяць думку да чытачоў, расшыраюць іх кругагляд. З прыемнасцю чытаю матэрыялы Мікалая Гайдука, Віктара Рудчыка і ўсіх-усіх. Магу назваць вартасныя матэрыялы М. Гайдука, якія ідуць пад рубрыкай „Краязнаўчы слоўнік". Гэта ж гісторыя населеных пунктаў, хай сабе і з дамешкай легенд. А легенды стварыў народ.

Многа працы ўкладвае В. Рудчык у публікацыі, што ўсталяваліся пад рубрыкай „Буг у агні". Гісторыя ўсенароднай вайны супраць гітлераўскіх захопнікаў, ці лепш сказаць бандытаў, будзе хваляваць не адно пакаленне, колькі б мы аб гэтым не пісалі, бо перад намі адкрываецца душа мірных, працавітых людзей.

Не магу не сказаць некалькі слоў аб Дзядзьку Квасу. З самай шчырай увагай чытаю яго простыя, але добрыя карэспандэнцыі ў прозе і ў вершах. І я жахнуўся, калі ён заявіў, што больш не будзе пісаць у газету. А потым, убачыўшы на старонках „Палоску", з палёгкай уздыхнуў: жыве Дзядзька Квас!

Дзядзька Квас узнімае вельмі важнае пытанне шкоднасці абстракцыянізму, якім захапіліся некаторыя, асабліва пачынаючыя „белавежцы". Абаронцы гэтага стылю лічаць такія вершы верлібрам (свабоднымі, або белымі, без рыфмы). Між іншым, сустракаюцца верлібры ў Максіма Танка. Але ў такіх яго творах ёсць глыбокі сэнс, знакі прыпынку, як і патрабуе правапіс.

А абстракцыяністы да таго захапіліся „вольным" вершам, што страцілі меру і дайшлі да бязглуздзіцы, бяссэнсавага нагрувашчвання слоў. Нездарма ў Беларускай савецкай энцыклапедыі напісана: „Абстракцыянізм выкарыстоўваецца буржуазнай рэакцыйнай ідэалогіяй у барацьбе супраць рэалізму, ідэйнасці і народнасці мастацтва" (т. І, ст. 41).

Дзядзька Квас, чалавек свядомы і спрактыкаваны, з чулай душой, не мог прайсці міма такой шкоднай сапраўднаму мастацтву з'явы. Я не ўступаю ў палеміку, каб каго не пакрыўдзіць, а проста выказваю сваю думку аб адным з найбольш знатных супрацоўнікаў „Нівы" — Дзядзьку Квасу. А калі гаварыць шчыра, то я хацеў бы, каб наша беларуская літаратура не толькі ў БССР, а ўсюды развівалася як найлепш, бо гэта наша кроўная справа. Куды прыемней глядзець на складзены прыгожы дом, а не на зваленыя абы-як у кучу цэглы. Гэта можна сказаць і пра словы, з якіх будуюцца вершы.

У апошняй „Ніве" (№2) прачытаў паведамленне, што выйшаў з друку „Беларускі каляндар" на 1980 год з багатым зместам. Там мяне ўсё цікавіць, у прыватнасці публікацыя Ю. Туронка аб слонімскім паэце Гальяшу Леўчыку, якому сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння. Да гэтай даты ў выдавецтве „Мастацкая літаратура" павінна выйсці кніга выбраных вершаў паэта, якую падрыхтаваў наш зямляк Янка Саламевіч. Цікавяць мяне публікацыі А. Бергман, В. Рудчыка, М. Шаховіча, П. Ластаўкі, В. Шведа і ўвесь каляндар.

На адным з пасяджэнняў слонімскага клуба аматараў кнігі „Крыніцы" мяне папрасілі прачытаць лекцыю аб літаратарах, якія жывуць у Польскай Народнай Рэспубліцы і пішуць на беларускай мове. Я паабяцаў падрыхтаваць такую лекцыю, бо маю некалькі кніжак „белавежцаў". Але гэтага ўсё ж малавата.

Таму асмелюся прасіць вас даслаць мне „Беларускі каляндар" на 1980 год, зборнік вершаў Міхася Шаховіча і яшчэ што-небудзь, што выйшла за апошнія тры гады.

У сваю чаргу дасылаю вам кнігу М. А. Ткачова „Замкі Беларусі".

Калі вас будзе цікавіць што-небудзь з беларускіх выданняў, пішыце, змагу — прышлю.

Прывітанне і найлепшыя пажаданні супрацоўнікам „Нівы", літаратарам і ўсім людзям добрай волі.

З павагай **Анатоль Іверс**
Слонім, БССР

(Працяг са стар. 4)

## АДГАЛОСКІ

целям", „Ніва" № 3/1980. Зразумеў я, што твой высакародны ўчынак з малым дзікам заслугоўвае вялікай увагі. З цябе павінны браць прыклад маладыя і старэйшыя. Дапамагаць звярам і птушкам — справа вялікага гонару вашага, дарагія Аня і Валодзя Кендысь.

Трэба памятаць, што кожная зіма, нават умеркаваная, з'яўляецца заўсёды цяжкім перыядам для звяроў і птушак. Калі хтосьці з нас сядзе за стол у цёплай ды ўтульнай хаце, няхай гляне ў акно. На дрэвах, мурах і дамах сядзяць у холадзе галодныя птушкі. А на палях і ў лясах у пошуках харчавання вандруюць звяры. Няма ў іх цёплай хаты ды застаўленага стала.

Апрача холаду і голаду іх падпільноўвае яшчэ адна небяспека — гэта драпежнікі. Маленькі дзічок, якога ты прынесла дамоў, быў зусім безабаронны. Ён мог лёгка стаць здабычай воўка, рыся, лісы і... чалавека. А дзік, хаця і любіць капаць бульбу, адначасова вельмі карысны звер. У лесе дзік шукае ў падсцілцы і глебе насякомых і іх лічынкі. Глеба, зрытая дзікамі, і ёсць біяіхнітам — з слядамі жыццядзейнасці арганізмаў. Калі б не было дзікоў і птушак, тады шматлікія шкодныя насякомыя вынішчылі б лес. Таму гэтага звяра вельмі паважае і ахоўвае лясная служба.

Дзік (мал. 1) з'яўляецца неад'емнай часткай ляснога згуртавання — біяцэнозу. Іхніты, зробленыя ў глебе дзікам, спрыяюць лесааднаўленню. Насенне дрэў, што пападае ў разрыхленую глебу, лёгка вырастае. З'яўляецца ў лесе маладняк ды падлессе, якое часта бязлітасна вынішчаюць сарны, лосі, алені, зубры.

У падрахунку — ад дзіка атрымліваем карысці ў трайным размеры: ахову лесу, лесааднаўленне, ды пры планамерным паляванні — шкуру і мяса.

Я заўсёды памятаю вельмі хвалюючы выпадак. Мяне папрасіў паляўнічы А. Валосік зрабіць даследаванне мяса забітага дзіка — на трыхіноз. Была зіма. Калі жывёлу разабралі, тады выявілася, што яго страўнік быў пусты. У ім знайшлі толькі кавалачак струхлелага дрэва. Зіма. Холад і голад. Страшна падумаць, ды жаль глядзець на гэткую пакуту траваеднай жывёлы.

Мал. 1. Дзік

У школах існуюць біялагічныя гурткі Лігі аховы прыроды. Вялікім гонарам для школы і для яе вучняў — юных біёлагаў будзе, калі яны возьмуць шэфства над вызначанай тэрыторыяй. У супрацоўніцтве з паляўнічымі будуць дастаўляць корм, знімаць усе застаўленыя петлі. Каб суддзя хаця адзін раз убачыў, у якіх пакутах канчае сваё жыццё жывёла ў пастцы або петлі, ён бы патроіў свой прысуд на нягоднікаў-браканьераў за іх злачынства.

Юныя біёлагі павінны стымуляваць паляўнічыя гурткі да больш інтэнсіўнай дзейнасці ў галіне аховы прыроды ў цэласці.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

## ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА

Розныя былі рэцэнзіі і вывады аб кніжцы М. Космана „Гісторыя Беларусі". Праўду напісаў на гэтую тэму Т. Кірылаў, што не робіць памылак толькі той, хто нічога не робіць. Гэта факт. Хоць аўтар кнігі многа не дапісаў, многае вытлумачыў па-свойму, аднак кніга застаецца цікавай і павучальнай для ўсіх тых, хто цікавіцца Беларуссю. З кніжкі многа можна даведацца аб партызанскім руху ў гэтай краіне, нават аб дзеду Талашу напісана і ёсць яго партрэт. Гісторыя Беларусі М. Космана — першая ластаўка, якая дазваляе пашырыць знаёмства з беларускім народам і гэта вельмі важнае.

**М. Панфілюк**

Імпартгумар

## Не крывадушнічай, дарагі!

— Дык значыць, ты ўсё-такі едзеш! Вось сапраўдная цана ўсім тваім прыгожым словам аб каханні, аб тым, што ты без мяне жыць не можаш... Адна балбатня! Крывадушнік ты і больш ніхто! I не апраўдвайся, што гэта, маўляў, простая камандзіроўка. Ты ж мог вытлумачыць ім усё, адмовіцца. А цяпер я павінна аставацца зусім адна! Ці ж ты не мог ім сказаць, што мы дня не можам пражыць адно без другога? Я ўпэўнена, што табе пайшлі б насустрач... Але ты проста рукамі ўхапіўся за гэту камандзіроўку — як жа, можна пагуляць!.. Паслухай, а лыжны світэр ты ўзяў? Так я і ведала — хочаш наладзіць сабе ўікэнд у гарах! I хацела б я верыць, што ты там прыдумаеш, каб прадоўжыць камандзіроўку... А што будзе са мною, як я пражыву гэтыя доўгія тыдні, ці магчыма, месяцы, аб гэтым ты падумаў? Глядзі, я кладу табе шэсць чыстых кашуль. Калі пойдзеш на спатканне — вы, мужчыны, здаецца, называеце іх нарадамі, — надзявай заўсёды чыстую. Што рабіць, такія ўжо мы, жанчыны, дурніцы: хочам, каб каханы мужчына заўсёды выглядаў ахайным, нават, калі ён ідзе на спатканне з чужой жанчынай! Глядзі, а вось тут ляжыць твой новы сіні касцюм... Нічога дзіўнага я тут не бачу, нельга ж пайсці ў тэатр ці рэстаран у рабочым касцюме. Не супакойвай мяне, не трэба! Усё роўна ты ніколі не зразумееш маіх пачуццяў! Не ведаю чаму, мне раптам у галаву прыйшлі словы з песенькі Жыльбера Беко: „Без цябе ўся зямля здаецца мне пустынная"... Ды-ы, ці ж табе з тваім каменным, эгаістычным сэрцам зразумець увесь сум гэтых слоў? Я кладу табе спінінг. Спадзяюся, хоць адну рыбку ты мне прывязеш? Дарэчы, калі там будзе басейн з падгрэвам, абавязкова добра вытрыся, перш чым выйсці на вуліцу, бо яшчэ халаднавата. Я табе і плаўкі палажыла, тыя, чырвоныя...

— Як хутка ты вярнуўся! Узяў таксі?! Дзіўны для цябе жэст! Раптам выраш ыў пабыць са мною яшчэ крыху... Што?! Наогул нікуды не паедзеш?! Так, зразумела, я сама прасіла цябе... А камандзіроўка? Адмовіўся? Госпадзі, на нейкія нешчасныя дзесяць дзён ты не мог пакінуць мяне адну, даць мне адпачыць ад цябе! Вось яно — тваё каханне! I не крывадушнічай, дарагі!

**Веранікa Бертолі** (Румынія)



**— Ты заўсёды падпарадкоўваешся, — сказаў дым ветру. — Дзьмеш услед за мною.**



*Прыстасаваўся...*

**З „Веснікa Задрыпоніі"**

### НЯЎХІЛЬНАСЦЬ

Трое нягоднікаў, сарваўшы пломбу, укралі з таварнага вагона пак мануфактуры. Якое ж было іх здзіўленне, калі, разгарнуўшы пак, яны выявілі ў ім супрацоўніка крымінальнага вышуку, што знаходзіўся там у засадзе!

### ПЫТАННЕ СТУДЭНТКІ НОНЫ

Ці існуюць ільготныя пуцёўкі ў жыццё?

### ХАТНЯЯ ЖЫВЁЛІНА

Настаўніца папрасіла вучняў назваць хатніх жывёл. Міколка падняў руку.

— Слон, — і ўсе гучна зарагаталі.

Тады настаўніца вырашыла вучню дапамагчы і спытала:

— А хто ў бабулі жыве ласкавы, з вусамі?

— Дзядуля! — абрадаваўся Міколка.

### СЦІПЛАСЦЬ

Сава хвалілася празорлівасцю:

— Я нават уначы выдатна бачу.

А як яна бачыць днём, сціпла прамаўчала.









ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## ТЕЧЕ ВОДА КАЛАМУТНА

*Тече вода каламутна,*
*Чого мила моя смутна?*
*„Я не смутна, лем сердита:*
*За Іванка зночі бита.*

*Била мене мамка зночі*
*За Йванкові чорні очі,*
*Ще й, казала, буде бити,*
*Щоби Йванка не любити.*

*Мамко моя солоденька,*
*І ти була молоденька.*
*Ти ходила так за няньком,*
*Як я тепер за Іванком.*

*Тобі легко було, мати,*
*Між своїми вибирати,*
*Вийшла ти за мого нянька,*
*Я люблю чужого Йванка.*

*А я Йванка так любую,*
*Дэ зійдуся, — там цілую.*
*Ой Іване, серце мое,*
*Нема таких, як ми двое.*

*Тече вода коло млина,*
*Мамко моя, я не винна,*
*Бо ми такі паровані,*
*Як горнятка мальовані".*



„Made in Zadrypanka". Электрычны прас для майстроў фігурнага катання. Пераключальнік тэмператур ставіцца на становішчы „тодэс", „двайны тулуп", „рытбергер", „трайны сальхаў", „каўфман" і г.д.

### ЯК ЖА НЕ ПЛАКАЦЬ

Ідзе дарогаю п'яны Кастусь, слёзы з вачэй капкап..

— Ты чаго плачаш? — пытаюць яго.

— Ды як жа мне не плакаць, калі хочацца яшчэ выпіць, а здароўе не дазваляе...

### ХТО БОЛЬШ?

Яна: — Ды ці ведаеш ты, што са мною хацелі жаніцца пяцера хлопцаў?

Ён: — Пхе, здзівіла. Я сам, напрыклад, меў намер жаніцца з дзесяццю дзяўчынамі.

### У РЭСТАРАНЕ

Наведвальнік да афіцыянта:

— Хіба гэта курыца?! Ды тут толькі шкура і косці!

— Прабачце, а што вы яшчэ хацелі? Пер'і?

### ПРАКОП ХІСТАЎСЯ

На ўроку мовы настаўнік гаворыць:

— Параўнаем два сказы: „Пракоп ішоў па вуліцы" і „Цэлы дзень ішоў дождж". У якім сказе слова „ішоў" ужываецца ў прамым значэнні, а ў якім — у пераносным?

Вучань адказвае:

— У першым сказе слова „ішоў" ужываецца ў пераносным значэнні, бо Пракоп ішоў і хістаўся, ледзь не ўпаў.

### ЛЫСАЯ ЦЕШЧА

— У вашай цёшчы вельмі прыгожыя валасы, — гаворыць прыяцель. — Яна мабыць іх добра даглядае?..

— Канечне. Кожны раз яна іх замыкае на ноч у шафе.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Чаму вы ўнікаеце доктара Сміта? Як толькі ён увайшоў у пакой, вы тут жа схаваліся.

— Я саромеюся...

— Але чаго ж?

— Я ўжо год дзесяць нічым не хварэў.

✼

Тоне вялікі пасажырскі параход. Па радыё аб'яўляюць:

— Пасажыры, якія купілі білеты ў растэрміноўку, садзяцца ў шлюпкі першымі!

✼

— Цвярдзяць, што пры адным толькі пацалунку перадаецца пяць мільёнаў мікробаў.

— Але ж, з другога боку, ад стольких жа і пазбаўляешся!



### „КАЛЯК НЕ МОЛЯК"

У апошнія гады жыцця вядомы рускі акцёр І. І. Сасніцкі, першы выканаўца ролі гараднічага ў „Рэвізоры", пачаў дрэнна чуць суфлёра і часта бязбожна перакручваў тэкст.

Так, у п'есе „Вясною" ён замест слоў „как воздух ароматен" сказаў: „как воздух аккуратен", а ў п'есе „Было, ды прайшло" замест фразы „тебя возьмут в опеку" сказаў — „запрут в аптеку".

У адной гістарычнай драме, дзе Сасніцкі іграў казака Заруднага, ён так заблытаўся ў тэксце, што замест „без коня и сабли — казак не казак" выпаліў: „без коля и мабли — каляк не моляк".

### РЭКОРД

Браты Аска і Йорма Камсіла з мястэчка Юурва былі вядомы як добрыя майстры-мебельшчыкі, але вось яны засталіся без работы. Дзе ўзяць сродкі да існавання? Вырашылі браты ўстанавіць сусветны рэкорд. Пагодлівым днём у прысутнасці аднавяскоўцаў, распрануўшыся дагала, яны селі на вялікі мурашнік. Прэтэндэнты ведалі, што ранейшы рэкорд складаў адну гадзіну 25 мінут. Яны вырашылі перакрыць яго ў два разы. Аднак праз дзве гадзіны 45 мінут, не даседзеўшы да запаветнага часу ўсяго пяці мінут, новыя ўладальнікі сусветнага рэкорду не вытрымалі ўкусаў занепакоеных гаспадароў і злезлі са свайго „п'едэстала". Урачыстасцей з выпадку ўстанаўлення новага рэкорду не праводзілася.



**Перш чым вынаходзіць машыну часу, падумай аб запчастках.**